

Бадай, няма такога чалавека, які б не любіў смяяцца. Нездарма ў народзе кажуць, што дасціпны жарт спрыяе добраму настрою, здароўю.

Той, хто будзе чытаць гэтыя смяшынкі, пэўна ж, таксама ўсміхнецца.

Смейцеся наздароўе!

— Дзеці,— сказаў вучням настаўнік,— сёння вечарам можна назіраць зацьменне Месяца. Не забудзьце паглядзець яго а дваццаць адной гадзіне сорак пяць хвілін.

— А па якой праграме? — пачуўся з задняй парты зацікаўлены голас.



*— Мама, я ведаю, чаму падкоўваюць каня.*

*— Чаму, сынок?*

*— Каб у яго ногі не мерзлі.*



Вучні ачышчалі ад снегу дарогу каля школы. Толькі Саша стаяў і нічога не рабіў. Да яго падышла настаўніца і спытала:

— Ты чаму не працуеш разам з усімі?

— А я ў школу хаджу іншай дарогай.



— Света, што з табою? — спытала Лена ў старэйшай сястры, убачыўшы, што яна плача.

— Настаўнік геаграфіі паставіў мне двойку,— адказала Света.— Я забылася, дзе Аляска.

— І сапраўды, куды ж ты яе паклала?! — здзівілася малая.



*— Доктар, гэта праўда, што калі я буду есці многа морквы, у мяне палепшае зрок?*

*— Праўда. Хіба ты бачыў калі зайца ў акулярах?*



Вучань звярнуўся да настаўніка:

— Скажыце, калі ласка, ці можна сварыцца на чалавека за тое, чаго ён не рабіў?

— Не, нельга.

— Тады я прызнаюся, што не выканаў хатняга задання.



Сын:
— Тата, пазнаёмся, гэта Алёнка.
Тата:
— Вельмі прыемна.
Сын:
— Яна таксама хоча, каб ты дапамагаў ёй выконваць хатнія заданні.



*Каця пытаецца ў бабулі:*
*— Навошта вавёрка летам сушыць грыбы? Хіба зімою яна будзе варыць суп?*



На ўроку фізкультуры Павел Пятровіч сказаў:
— Усе кладзіцеся на спіну і ўявіце, што едзеце на веласіпедзе. Рабіце рухі, як быццам вы круціце педалі. Хутчэй! Хутчэй! Міша, а ты чаму перастаў рухаць нагамі?
— А я з горкі з'язджаю!



— Паўлік, чаму ты кожны дзень спазняешся ў школу? Няўжо ў вас няма будзільніка?

— Будзільнік-то ёсць, ды толькі ён звоніць, калі я сплю.



*Унучка:*

*— Бабуля, колькі табе гадоў?*

*Бабуля:*

*— Семдзесят.*

*Унучка піша лічбу і кажа:*

*— О, дык мы з табой равесніцы! Нам сёння ў школе казалі, што нуль нічога не азначае.*



— Віця, я спаткаў Ніну Іванаўну. Яна зноў скардзілася, што ты дрэнна паводзіш сябе.

— І чаго яна скардзіцца? Я ж сёння зусім не быў у школе!



Хлопчык прыйшоў у магазін і сказаў прадаўшчыцы:

— Тры кілаграмы рысу за 9 тысяч рублёў, чатыры сыркі за 1 тысячу семсот рублёў, 600 грамаў каўбасы за 30 тысяч шэсцьсот рублёў.

Прадаўшчыца:

— 52 тысячы 160 рублёў.

Хлопчык:

— Дзякуй. Вось гэта задача не атрымлівалася ў мяне.



*Сярожа спытаў у малодшага брата:*

*— Як ты думаеш, навошта паляўнічаму патрэбны сабака?*

*— Каб зайцы не накінуліся на яго.*



На ўроку гісторыі.

Настаўнік:

— Юра, чым адрозніваецца першая Пунічная вайна ад другой?

Юра:

— Тым, што першая была раней за другую.



— Паглядзіце, Зоя Міхайлаўна,— кажа вучань.
— Што гэта? — пытае настаўніца.
— Фотакартка.
— Навошта ты прынёс яе?
— Дык вы ж хацелі пабачыць маіх бацькоў.



*— Чаму нам увесь час нагадваюць мыць рукі? — пытае малы Косцік у сябрука.*
*— Відаць, таму, каб не заразіцца гігіенай.*



Настаўнік на ўроку геаграфіі:
— Пеця, я прасіў цябе паказаць даліну, а ты на Эльбрус залез!
— А з гары лепш відаць, Сяргей Васілевіч!



Настаўніца геаграфіі гаворыць Вову:
— Пакажы, дзе знаходзіцца Волга?
— «Волга»? Дык яна ж у гаражы!



Дзіма накрыў галаву падручнікам матэматыкі і сказаў тату:

— Тата, я пагрузіўся ў матэматыку з вушамі.

— Да якіх жывёл адносіцца ліса?

— Да кураедных.



*— За што ты, Юра, двойку атрымаў?*

*— За доўгі язык: падказваў Пецю. А ты?*

*— А я — за кароткі: не змог расказаць верш.*



— Чаго прыходзіла да нас цётка Вера? — пытае Слаўка ў маці.

— Так проста — пасядзець.

— А што, у іх сваіх крэслаў няма?!

Настаўнік:

— Скажы, Сідараў, як па-нямецку «купацца»?

— Так, як і па-беларуску: раздзеўся — і ў ваду!

— Якія прамыя называюцца паралельнымі? — спытала настаўніца ў Валі.

— Прамыя, якія бягуць адна па другой і супадаюць,— адказала Валя.



*— Зноў двойку атрымаў? — пытае маці.*

*— Як ты даведалася?*

*— У цябе на твары напісана.*

*— Другім разам буду мыцца.*



— Чым займаўся ты сёння ў школе? — спытала маці ў Андрэя.

— Як — чым? Вядома, вучыўся. Ідучы дадому, адной рукою трымаўся за парэнчы, а другой спускаўся па лесвіцы.



— Як ты думаеш,— пытае Галя ў сяброўкі,— што бліжэй да нас: Месяц ці Аўстралія?

— Месяц. Я яго бачу, а Аўстралію не!



— Чаго ты плачаш, Вовачка?

— Ножка баліць!

— Якая?

— Я забыўся.



*Настаўнік піша на дошцы 5—2 і пытае ў вучня, колькі атрымаецца?*

*Вучань:*

*— Два.*

*— Адгадаў, ты сёння атрымаеш двойку.*



— Ты чаму атрымаў сёння двойку?— пытае маці ў сына.

— Я не атрымліваў яе. Настаўніца паставіла,— адказаў сын.



На ўроку англійскай мовы дзеці складалі фразы па малюнках, і настаўнік запытаў у Валі:

— Хто намаляваны тут?

— Тут намаляваны хлопчык.

— Скажы па-англійску.

— Тут намаляваны англійскі хлопчык.



*— Саша, назаві свойскую жывёлу, якая мае чатыры нагі.*

*— Конь, карова, кот, сабака.*

*— І гэта ўсё?*

*— Дзве качкі.*



Вучні носяць макулатуру. Усе нясуць па кілаграму, а Дзіма — па паўкілаграма.

Настаўніца:

— Дзіма, чаму ты лянуешся несці кілаграм, а носіш па паўкілаграма?

— Гэта мае аднакласнікі лянуюцца схадзіць два разы.



На ўроку беларускай мовы настаўнік пытае:
— Які гэта час: ён спіць, яна спіць, яны спяць?
Вучань:
— Вядома, ноч.



*— Коля, чаму ты не выпраўляеш двойку? — спытаў бацька ў сына.*
*— Я даўно б выправіў, ды ў мяне няма чырвонага алоўка.*



— Нехта абяцаў мне прыбраць свой куточак,— кажа маці, пазіраючы на дачку.
— Прыбяру.
— Дык чаго ж ты чакаеш?
— А ў мяне зараз абедзены перапынак.

Валера спытаў у малодшага брата:
— Чаму мяўкае кот?
— Бо ён не ўмее гаўкаць,— адказаў брат.

— Кім працуе твая мама? — спытала выхавальніца ў Светы.

— Калдаўшчыцай,— адказала малая.



*Настаўнік гісторыі:*

*— Ваня, з якога часу ты не прыходзіў на заняткі?*

*Ваня:*

*— Ад бітвы на Лядовым полі.*



— Вы ведаеце, дзеці, што на холадзе ўсе прадметы сціскаюцца, а ў цяпле павялічваюцца,— тлумачыць настаўнік урок.— Хто з вас можа прывесці прыклад.

Ігар падняў руку і адказаў:

— Летнія канікулы бываюць большыя, а зімовыя меншыя.





Маці згатавала смачную страву і кліча малога Алёшу:

— Сынок, хадзі есці «селядзец пад футрам».

Малы падышоў, паглядзеў ды кажа:

— Што ты выдумала, мама? Пад якім футрам? У футра ж ёсць рукавы!



*Брат з сястрою прыйшлі ў заапарк. На кожнай клетцы вісіць таблічка: «Не карміць!»*

*— Бедныя звяры,— кажа сястра,— як жа яны будуць жыць?*



Настаўнік:

— Толя, чаму Юра нясе твой рукзак?

Толя:

— Я прывучаю яго памагаць старэйшым.



— Як гусі выратавалі Рым?
— Калі да горада набліжаліся ворагі, гусі заржалі.

Настаўнік:
— Вельмі непрыемна, але прыйдзецца паставіць табе двойку.
Вучань:
— Каб вам было прыемна, пастаўце тройку.

Света гаворыць сяброўцы Дашы:
— Давай спаборнічаць: хто хутчэй засне. Калі я засну раней, я табе скажу, калі ты раней, ты мне скажаш.

— Сёння я пайду зубы рваць,— кажа маці дачцэ.
— А хіба яны табе перашкаджаюць?! — здзіўляецца дзяўчынка.



— Косця, колькі ў цябе двоек?
— Тры. А ў цябе?
— У мяне толькі дзве.
— Э, дык ты ж адзін дзень у школе не быў!..



— Чаму цябе трэці дзень не відаць у школе? — пытае Міця ў свайго сябра.

— Мне сказалі без бацькі не прыходзіць, а ён паехаў на месяц у камандзіроўку.



— Тата,— сказаў Сярожа,— заўтра ў школе адбудзецца маленькі сход вучняў, бацькоў і настаўнікаў.
— Чаму ж ён «маленькі»?
— Бо гэта толькі я, ты і класны настаўнік.



— Чаму ты такі вясёлы, Лёня?
— Іду ад зубнога ўрача.
— Дык гэта ён цябе развесяліў?
— Яго кабінет быў закрыты.



— Настаўнік спеваў паскардзіўся, што ты заснуў на ўроку. Гэта праўда?

— А што ж мне было рабіць, калі ўвесь клас спяваў калыханку?!



— *Чым харчуюцца лісіцы?*

— *Сырам!*



— Якое сёння надвор'е? — спытала маці ў малога, які прыбег з вуліцы.

— Крыху холадна, крыху цёпла! — адказаў той.



Ромку пытаюць пра жаніха сястры:

— Колькі яму гадоў?

— Адкуль я ведаю! — адказвае малы.

— Ён малады?

— Ага, маладзейшы за мяне: у яго яшчэ валасы на галаве не выраслі.



— Што ты бачыш над галавой у пагодны дзень? — спытаў настаўнік.

— Блакітнае неба,— адказаў вучань.

— А ў дождж?

— Парасон.



*Малая Юля пытае ў сяброўкі:*

*— Ці дома ваш Міша?*

*— Няма.*

*— А дзе ён?*

*— Па двойкі пайшоў.*



Зося пытае ў сяброўкі:

— Люда, ты скакала цераз казла на ўроку фізкультуры?

Люда:

— Што ты! Нам казла не прыводзілі!





Настаўніца:

— Віця, ты ведаеш, чаму вакол Сатурна круг, як кольца?

Віця:

— Ведаю. Бо Сатурн капялюш надзеў!



*Малы Толя прыехаў да дзеда ў вёску. Убачыўшы ў яго ў руках качаргу, спытаў:*

*— Ты хакеіст? А ў якой камандзе гуляеш?*



Гена з татам ездзілі на экскурсію ў горад і зрабілі там шмат здымкаў. Назаўтра тата праявіў плёнку і вельмі здзівіўся:

— Нешта нічога на ёй не відаць.

— Я таксама глядзеў сёння і нічога не ўбачыў,— сказаў Гена.





— Тата, я вырасту і буду палярнікам.

— Вельмі добра, сынок.

— Я ўжо цяпер хачу рыхтавацца да гэтага.

— Як?

— А ты кожны дзень купляй мне марожанае, каб я прывыкаў да холаду.



*— Слава, як ты разумееш слова «падвода»? — спытаў настаўнік.*

*Хлопчык устаў і хуценька выпаліў:*

*— Падвода — такая машына, якая ездзіць пад вадой.*



— Як ты думаеш, чаму судны цяжкія, а не тонуць? — запытаўся Паўлік у сябрука.

— Думаю, таму, што на іх бартах вісяць выратавальныя кругі.



Настаўніца:
— Алік, дзе твой дзённік?
Вучань:
— Я пакінуў яго дома.
Настаўніца:
— Чаму?
Вучань:
— Няхай адпачне ад учарашніх двоек.



*Бабуля вяжа панчохі, а Васілёк гуляе з катом.*
*— Бабуля, загадай мне загадку пра ката,— папрасіў малы.*
*Бабуля падумала ды і кажа:*
*— Хто любіць смятану?*
*— Я! — усклікнуў Васілёк.*



Маці:
— Ты пакарміла куранят, дачушка?
Дачка:
— Ага, яшчэ ўчора, мамачка.



— Чаму гэта твой Бобік брэша, калі я праязджаю каля вашага дома?
— Ён злуецца, што ты ўзяў мой веласіпед на паўгадзіны, а катаешся паўдня.

Саша сядзіць і чытае. Да яго падбягае сястра.
— Кідай кнігу, цябе мама кліча.
— Зараз, толькі дачытаю. Такая цікавая кніга!
— Цікавая? Дык бяжы хутчэй. Я за цябе дачытаю!



*Настаўнік:*
*— Дзеці, вы, напэўна, усе бачылі на небе Вялікую Мядзведзіцу?*
*— А як яна туды залезла?*



— Зіна, ты сёння мыла рукі?
— Толькі правую.
— Чаму?
— Левая ад учарашняга чыстая.

— Навошта ты з'ела ўсе цукеркі? Нават не падумала пра сястру.

— Я думала. Як ела, увесь час думала, хаця б яна не прыйшла.



*— Я ўчора ў цырку быў! — хваліцца Міця.— Якія там цікавыя звяры выступалі!*

*— Якія? — пацікавілася Іра.*

*— Мядзведзі, сабакі, тыгры, ільвы і дрэсіроўшчык,— адказаў Міця.*



— Мама, дай мне грошай.

— Навошта яны табе?

— Трэба аддаць аднаму чалавеку, які крычыць на рагу вуліцы.

— А чаму крычыць той чалавек?

— Ён прадае марожанае.



Настаўнік:

— Гена, чаму ў цябе такія брудныя кнігі?

Вучань:

— А ў нас цэлы месяц лазня на рамонце.

*— Раскажы мне пра кіта,— кажа настаўніца вучаніцы.*

*— На целе кіта ёсць хвост, тулава і фантан,— адказвае вучаніца.*

Таня сядзела і чытала кнігу. Падышоў Юра і спытаў:

— Якую кнігу ты чытаеш?

— «Медны коннік». Можа, чытаў?

— Чытаў. Толькі яна называецца інакш — «Коннік без галавы».

— Чаму настае ноч? — пытае малая Даша ў сяброўкі.

— Бо ўсе людзі спяць,— адказала тая.

Алік вясёлы бяжыць да маці.
— Мама, мама, а я скрыпку зрабіў!
— А дзе ты струны ўзяў?
— З раяля выняў! — як нічога не здарылася адказаў хлопчык.



*Што б Косцік ні зрабіў, усё на сабаку звальваў. Згубіць кніжку, сшытак ці што іншае, а сябрам скажа: «Сабака некуды зацягнуў!»*
*Малодшы брат Жэня запомніў гэта. І аднойчы, калі Косціка не было дома, а да яго прыйшлі сябры і спыталі, ці дома Косцік, хлопчык адказаў:*
*— Няма. Яго некуды сабака зацягнуў.*



Аднаго разу дзяцей павялі на экскурсію на жывёлагадоўчую ферму ў суседні з лагерам калгас. Убачыўшы так блізка кароў, Стасік уважліва назіраў як яны жуюць і раптам запытаўся:
— Няўжо кожнай карове асобную жвачку купляюць?





— Значыць, ты, Ваня, лічыш, што вада шкодзіць здароўю чалавека? — здзівіўся настаўнік.

— Вядома,— адказаў хлопчык.

— Якім жа чынам?

— Напрыклад, калі чалавек утопіцца.



*— Давай гуляць у доктара,— кажа Ромка Міхаську.— Я буду доктар, а ты хворы. Што ў цябе баліць?*

*— Галава.*

*— Ёй цесна ў тваёй шапцы!*



Настаўнік пытае вучня на ўроку:

— Паўлік, чаму ты ўвесь час глядзіш мне ў вочы?

— Вы самі, Іван Іванавіч, казалі, што трэба смела глядзець у вочы небяспецы.



Па дарозе ў магазін Міколка згубіў грошы. Прыйшоў дахаты і плача.

— Я ведала,— кажа маці,— што так здарыцца.

— Дык навошта тады пасылала?



*Сеня зайшоў у пакой да дзядулі, які ляжаў на ложку.*

*— Чаго ты ляжыш?! — здзівіўся хлопчык.*

*— Хварэю.*

*— А за каго? За Карпава ці за Каспарава?*



— Соня, чаму ў вашым агародзе макі схілілі макаўкі? — спытала Ганначка ў сяброўкі.

— Ім галовы баляць,— адказала Соня.

Міша пытае ў сябра:

— Толя, ты ўчора хадзіў па суніцы?

— Хадзіў.

— І шмат назбіраў?

— Шмат, ажно жывот забалеў.

Маша і Каця гуляюць у хованкі. Маша пытае ў Каці:

— Хутка ты схаваешся?

— Пачакай, толькі залезу пад стол.



*Трохгадовая Света, убачыўшы ў заалагічным садзе паўліна, закрычала:*

*— Мама, мама, паглядзі, курыца расцвіла!*



Настаўнік:

— Алёша, навошта ты заткнуў адно вуха ватай?

Алёша:

— Гэта калі ў адно вуха ўляціць, каб з другога не вылецела.

Настаўнік гісторыі пытаецца ў Паўліка:

— Што ты можаш расказаць пра вайну 1812 года?

— А мяне тады не было!



Неяк да вучняў у школу прыйшоў інспектар ДАІ і пачаў расказваць аб правілах вулічнага руху, потым спытаў:

— Можа, хто з вас назіраў выпадкі, калі парушаюцца правілы вулічнага руху?

Сцёпа падняў руку:

— Аднойчы па дарозе ехала машына з невялікай хуткасцю.

— Ну і што? — спытаў інспектар.

— ...і збівала пешаходаў з панталыку...



*— Певень важыць на адной назе два кілаграмы. Як ты думаеш,— пытае Лена ў сяброўкі,— колькі ён будзе важыць на дзвюх нагах?*

*— Чатыры кілаграмы,— адказала тая.*



— Мама, ці можна ставіць двойку за адну памылку?— спытаў сын у маці, паказваючы ёй дзённік.

— А якую памылку ты зрабіў?

— Спісаў задачку ў Толіка.

— Чаму ў цябе такі вялікі твар? — здзіўляецца малы Пятрок, паглядваючы на дзядулеву лысіну.

*Настаўнік:*
*— Які галоўны занятак канадцаў?*
*Вучань:*
*— Гульня ў хакей.*

Настаўніца:
— Ваня, што ты намаляваў?
Ваня:
— Варону і сыр.
Настаўніца:
— А дзе ж варона? Дзе сыр?
Ваня:
— Варона з'ела сыр і паляцела.

— Раскажы, Дзіма, бабулі верш. Той, што каля ёлкі расказваў.
— Без ёлкі я не магу, забываюся.

У суботу, калі Паўлік збіраўся ў школу, маці сказала:

— Вось атрымаеш сёння чацвёрку, паедзеш заўтра на цэлы дзень з татам на рыбалку.

Прыйшоў Паўлік дадому і кажа:

— Мама, я паеду на паўдня...

— Тата, на мяне настаўнік больш не прыйдзе скардзіцца.

— Чаму, сынок?

— А я на дзвярах напісаў: «Нікога няма дома».



*На лузе, куды прыйшлі Каця з мамай загараць, ляжалі каровы. Убачыўшы іх, малая закрычала:*

*— Глядзі, каровы таксама загараюць!*



Маці пытае ў дачкі:

— Ну, як прайшоў урок музыкі?

— Выдатна, мама! Я так іграла, што настаўніца аж плакала.

Жэня пытае ў Сашы:

— Дзе жывуць сланы?

— Гледзячы якія,— адказвае Саша.— Афрыканскія сланы жывуць на волі, а еўрапейскія — у заапарку.

Настаўнік:

— Коля, растлумач слова «самастойна».

Вучань:

— Сама стаіць.

*— Матуля, дай мне цёплы канверт.*

*— Навошта?*

*— Пісьмо пойдзе на Поўнач.*

— Матуля, калі я нарадзілася, ты назвала мяне Алькай. Як ты здагадалася, што мне падабаецца гэтае імя?



Малы Паўлік дастаў з буфета пячэнне і пачаў есці.

— Пакінь крыху на заўтра,— кажа маці.

— Мамачка, дык ты ж казала: ніколі не трэба пакідаць на заўтра тое, што можна зрабіць сёння.



Настаўнік:

— Вова, колькі ты прачытаў кніг за лета?

Вучань:

— Ніводнай.

Настаўнік:

— Чаму?

Вучань:

— Я не чытаў, а глытаў іх. Так тата сказаў.



— Ой, спаць хачу, вочы самі зліпаюцца! — уздыхае Макарка.

— Памыйся і кладзіся,— кажа бабуля.

— Не, мыцца не буду. Сон можа ўцячы.



— Мая матуля кладзецца спаць і ўстае з пеўнямі,— кажа малая Паўлінка сяброўцы.

— А ты з кім кладзешся і ўстаеш? — смяецца сяброўка.

— Сцёпа, чым ты займаешся на ўроку? Трэба пісаць сачыненне, а ты чытаеш кнігу,— кажа настаўнік.

— Вы памыляецеся, я толькі разглядаю малюнкі.

Маці спяшаецца на працу, таропка вядзе трохгадовага сына ў дзіцячы сад.

— Мама, ты чаму так гулка мяне вядзеш?! — здзіўляецца хлопчык.

Паўлік пасадзіў у агародзе маленькае дрэўца.

— Што гэта ты надумаўся?! — здзівілася маці.

— Хачу праверыць, ці праўда, што яно жыве дзвесце гадоў.

Маці:
— Міша, хіба табе не сорамна сядзець па два гады ў адным класе?!
Сын:
— Ты памыляешся, мама. Я год сяджу ў класе, а год стаю за дзвярамі.



*На ўроку батанікі настаўніца расказвала пра сухое і сакавітае насенне і запыталася ў класа:*
*— Куды мы аднясём падарожнік?*
*Віця падняў руку:*
*— Падарожнік мы аднясём у аптэку!*



На ўроку біялогіі настаўніца сказала:
— Бактэрыі нельга ўбачыць няўзброеным вокам.
Андрэй падняў руку і спытаў:
— Гэта значыць — навобмацак?





Маці прывяла сына ў музычную школу. Настаўнік праслухаў хлопчыка і кажа:

— Няма ў яго слыху.

— Няўжо аглух?! — здзівілася маці.— Ён жа ўчора яшчэ чуў.



*Настаўніца:*

*— Крот за дзень з'ядае столькі, колькі важыць сам.*

*Вучань:*

*— А дзе ж ён узважваецца?*



— Чаго ты гэтак рана падняўся, сынок? — пытае маці Вадзіка.

— Каб дзень быў большы. Сёння ж выхадны,— адказвае сын.



— Вася, схадзі і палічы куранят,— папрасіла бабуля.

Хлопчык вяртаецца ды кажа:

— Бабуля, я налічыў толькі дзевяць куранят, а дзесятае ўвесь час бегала, і я не мог яго палічыць.



*— Мама, адкуль бяруцца сланяты? — пытаецца малая Нінка.*

*— Бачыш, дачушка...*

*— Толькі не кажы мне пра бусла. Гэтая птушка проста не падыме сланя.*



Вова:

— Праўда, мама, што сонца такое, як мячык?

Мама:

— Праўда, сынок.

Вова:

— Дык чаму ж яно не падскоквае, як вечарам на зямлю апускаецца?

— Чаму раслінам нельга даваць занадта шмат угнаенняў?

— Каб яны не растаўсцелі!



*Першакласніца Ната прыходзіць са школы і кажа маці:*

*— Наша настаўніца, мабыць, памылілася.*

*— Чаму?*

*— Учора казала, што 2 плюс 4 будзе 6, а сёння ўжо казала, што 3 плюс 3 будзе 6.*



— Глядзі, Валечка, каб сшыткі ў цябе былі чыстыя! — павучае бабуля ўнучку-першакласніцу.

— А дзе ж мне пісаць? — пытае дзяўчынка.

Калі дзеці падышлі да рэчкі, выхавальніца папярэдзіла:

— Нікому не лезці ў ваду!

— А купацца можна? — запытаўся Міхаська.



*Настаўнік:*

*— Пеця, чаму птушкі адлятаюць у цёплыя краіны?*

*Вучань:*

*— Таму, што ім няма чым харчавацца,— упэўнена адказвае хлопчык.*

*— А чаму ім няма чым харчавацца?*

*— Ды таму, што насякомыя таксама паляцелі ў цёплыя краіны.*



— Мама, Марына казала табе, што я парваў кашулю?

— Не сынок.

— Ну добра, тады я табе не скажу, што яна пабіла люстэрка.



Першакласнік Сева прыйшоў са школы дадому і плача:

— Чаго ты плачаш? — пытае ў яго маці.

— Настаўніца сказала, што паставіць мне адзінку, а паставіла двойку.



*— Хто назаве кнігу пра вялікіх падарожнікаў? — спытала настаўніца на ўроку геаграфіі.*

*— «Лягушка-падарожніца»! — пачуўся голас з апошняй парты.*



— Андрэй, ты баішся заходзіць у цёмны пакой?

— Не.

— Тады зайдзі!

— Хадзем разам — і ты ўбачыш, што я не баюся.



Саша прачнуўся рана.
Мама просіць:
— Паспі, бо сонейка яшчэ не ўстала.
— Я ўстану, а сонейка няхай паспіць.



*— Чаму шчупака называюць драпежнікам?*
*— Таму што ён сваяк акулы.*



— Што такое культурныя расліны?
— Гэта расліны, якія растуць каля Дома культуры.



Малая Волечка ўбачыла янота і пытае ў мамы:
— Мама, як яго завуць?
— Янот,— адказвае маці.
— А як яго прозвішча?



— Мы елі суп з кацялка, які зварыла мама! — смяецца малая Вера.

— Што ты робіш?! — здзіўляецца маці, убачыўшы Петруся на падаконніку.

— Хачу праветрыць фортачку.



*На ўроку гісторыі Ганна Аляксееўна сказала Віцю:*

*— Раскажы аб перамозе Спартака.*

*— «Спартак» выйграў у «Дынама» з лікам 4 : 0! — бойка адказаў хлопчык.*



— Мая сястра кожны дзень бегае па ларках, дзе прадаюць цукеркі! — скардзіцца Сярожа сябру Гену.

— Няўжо яна гэтак любіць цукеркі? — пытаецца Гена.

— Не, яна мяне шукае! — адказвае Сярожа.

На вокладцы кнігі былі намаляваны тры мухі. Мікола ўбачыў і здзівіўся:

— Глядзіце, тры мушкецёры!



*Настаўніца сказала першакласнікам напісаць імёны мамы, таты, сястры, брата і сваё. Назаўтра, узяўшы ў рукі Галін сшытак, яна здзівілася і спытала:*

*— Ты чаму ўсе імёны напісала з вялікай літары, а сваё — з малой?*

*— Дык я ж самая маленькая! — адказала Галя.*



Настаўніца:

— Косця, ты дрэнна вывучыў урок. Відаць, не заглядваў у кнігу.

Косця:

— Заглядваць-то я заглядваў, але, мусіць, не на тую старонку.



— Мама, я заўтра ў школу не пайду,— кажа сын.
— Чаму, сынок? — здзіўляецца маці.
— У мяне сёння галава баліць.



— Ваня, чаму ты не чытаеш кнігу?
— Дык жа тэлевізар адрамантавалі!



*— Чаму кошкі бачаць у цемры?*
*— Таму, што яны не могуць дастаць да выключальніка.*



На ўроку геаграфіі настаўнік тлумачыў новы матэрыял. Ён казаў, што на Палессі часта бываюць туманы. Адзін вучань не слухаў. Настаўнік выклікаў яго да дошкі.
— Пакажы на карце Палессе,— сказаў ён.
— Не магу!
— Чаму?
— Яно ў тумане.



На ўроку батанікі настаўніца спытала ў Пеці:
— Чаму кветкі цягнуцца да сонца?
— Бо летам усе хочуць лепш загарэць! — адказаў хлопчык.

Настаўніца:
— Якія звяры водзяцца ў тундры?
Вучаніца:
— Футравыя.

*Маленькі Васілёк, пачуўшы, што старэйшы брат прыехаў са школы на двойцы, выбег на двор і вярнуўся расчараваны.*
*— Дзе ж ты паставіў яе? Я таксама хачу пакатацца!*

— Чаго ты, татка, прычапіўся да маіх сшыткаў?— абураецца першакласнік Сева.— Няўжо табе было б прыемна, калі б тваю працу штодзённа кантраляваў рэвізор?

Маці спытала ў Тамары:
— Дзе твой дзённік?
— У куце.
— Чаму?
— Я пакарала яго. Там двойка.



*— Скажы, Галінка, чаму ты намалявала карову, у якой пяць ног?*
*— Таму што нават у машыны ёсць запаснос кола.*



Настаўнік геаграфіі:
— Саша, пакажы, калі ласка, на карце, якім шляхам паплыў бы ты з Балтыйскага мора ў Ахоцкае.
Саша маўчыць.
— Ты вывучыў сёння ўрок?
— Урок я вывучыў, ды плаваць не навучыўся,— прызнаўся вучань.



Трохгадовая Насцечка прыехала да бабулі ў вёску. Убачыўшы вялікіх птушак — індыкоў, закрычала:

— Мама, мама, зірні! Качка з гальштукам!

— Ці лятаў ты на самалёце? — спытаў у Міколкі аднакласнік.

— Лятаў.

— І не баяўся?

— Першы раз баяўся, а потым не лятаў.

Малы Саша зірнуў у акно і нечакана заплакаў.

— Ты чаго? — спытала маці.

— Месяца шкада. Учора быў круглы, а сёння ў яго хтосьці адламаў палову,— адказаў Саша.

Па вуліцы ідзе валасаты, ускудлачаны юнак. Малы хлопчык паглядзеў на яго і кажа бацьку:

— Тата, а ў гэтага хлопца скупая мама.

— Чаму ты так думаеш?

— Бо яна не дае яму грошай схадзіць у цырульню...

Бацька сыну:

— Ты чаму сёння атрымаў двойку?

Сын:

— Што зробіш, тата! У класе трыццаць вучняў, і калі чарга дайшла да мяне, усе добрыя адзнакі скончыліся.

Сын падбягае да маці і кажа:

— Я перакуліў лесвіцу. Мне нічога не будзе?

— Бяжы і скажы тату аб гэтым, і ўсё будзе добра.

— Тата і так ведае: ён перакуліўся разам з ёю.

Бацька:

— Вова, ты чаму не ў школе? Толькі не кажы, калі ласка, што настаўніца адпусціла цябе з урока.

Сын:

— Тата, але гэта сапраўды так. Настаўніца сказала: «Ідзі і можаш болей не прыходзіць».



*Першакласнік прыйшоў да ўрача. Урач агледзеў яго і просіць:*

*— Скажы — А.*

*— Чаму — А? Я ўвесь алфавіт ведаю!*



— Фама, чаму ты не слухаеш тлумачэння? — спытаў настаўнік.

— Я слухаю.

— Тады паўтары апошнія словы.

— «Фама, чаму ты не слухаеш тлумачэння?» — выпаліў вучань.

— Міколка, перагарэла лямпачка. Выкруці яе, калі ласка,— просіць маці.

Хлопчык залез на крэсла ў брудных чаравіках.

— Ты б хоць газету падклаў,— папракнула яго маці.

— Не бойся, я і так дастану.



*Маленькая Наташа паказвае Іры свайго ката.*

*— Цудоўны коцік,— хваліць Іра.— Пазыч яго мне, у нас дома поўна мышэй.*

*— Не,— адказвае Наташа.— Лепш ты прынясі да нас сваіх мышак.*



— Калі адбылася Грунвальдская бітва? — спытаў настаўнік у вучня.

— Даўно.

— Як даўно?

— Вельмі даўно.

— Хто з кім ваяваў?

— Праціўнік з праціўнікам.

— Хто перамог?

— Мацнейшы.



На ўроку беларускай мовы настаўніца спытала ў вучня:

— Васілёк, як будзе правільна: «Двор быў чыста вымецены» ці «Двор быў чыста падмецены»?

— І так, і гэтак правільна,— не задумваючыся, адказаў вучань.— Двор застаецца чыстым.



*— Дзядуля, а ты калісьці быў маленькі? — пытае ўнук.*

*— Быў, унучак, быў.*

*— Відаць, смешны ты быў са сваёй барадою?*



Настаўнік:

Жэня, скажы, што трэба зрабіць, каб вызначыць, які з газаў цяжэйшы: кісларод ці вадарод?

Вучань:

— Трэба ўзважыць іх.

— Ведаеш,— хваліцца малы Дзімка маці,— як толькі мы з Шарыкам падышлі да возера і распрануліся, з-за кустоў паказаўся твар зайца.

— Міша, ты спаў днём?
— Не ведаю.
— Як гэта — не ведаеш?
— Бо яж не бачу, як сплю.

*Маленькі Сярожа пытаецца ў свайго сябра:*

*— А ты ведаеш, чаму ў моры вада салёная?*

*— Ведаю,— адказвае Дзіма.— Каб рыба не псавалася.*

Маці:
— Сынок, з'еш яблык, у ім вітамінаў шмат.
Сын:
— Я ўчора з'еў цэлых пяць, але вітамінаў не бачыў.



Лянівы сын кажа бацьку:

— Ці ты, татачка, па ваду сходзіш, а я дома пабуду, ці я дома пабуду, а ты па ваду сходзіш.



— Валодзя, як ты думаеш, каго я тут намаляваў? — спытаў Пятрусь у сябра.

— Думаю, малпу.

— А я маляваў сябе,— сказаў Пятрусь і пачырванеў.



*Калі малой Тоні прыносілі гасцінец, ёй казалі:*

*— Ад зайчыка... Зайчык прыслаў...*

*Слухала Тоня, слухала і неяк спытала:*

*— А што, вялікі ў зайчыка магазін?*



— Чаму ты, Гена, не слухаеш тлумачэння? — пытае настаўніца.

— Я ж не магу адначасова слухаць і размаўляць з Колем. Трэба рабіць што-небудзь адно.



— Алік, што ты рабіў сёння на ўроку? — спытала маці ў сына.

— Чакаў званка.

— Схадзі сынок, павесь ручнік на сонца, няхай высахне,— сказала маці Юзіку.

Хлопчык пайшоў, але хутка вярнуўся.

— Чаму ты не павесіў ручнік? — спытала маці.

— А я не змог дастаць да сонца,— адказаў Юзік.



*— Якую першую жывёлу прыручыў старажытны чалавек?*

*— Маманта.*



— Хто дазволіў табе залезці на яблыню? — спытаў садоўнік у хлопчыка.

— А што мне было рабіць, калі вы павесілі шыльду: «Па траве не хадзіць!» — адказаў хлопчык.

— Ты памыў рукі? — спытала маці ў сына.
— Памыў. Не верыш — зірні на ручнік,— сказаў Ромка.



*— Толя, мой Рэкс ведае англійскую мову.*
*— Жартуеш?!*
*— Ды не.. Ішоў я сёння з магазіна: купіў каўбасы. Адламаў кавалак і паклікаў яго па-англійску. Дык ён гэтак ірвануўся насустрач, што ледзь не збіў мяне з ног.*



— Каму ты пісьмо пішаш?
— Сяброўцы Тані.
— А чаму на канверце прозвішча не напісала?
— А мы адна адну па імёнах называем!



# REKS



— Чаму вада ў чайніку закіпае, калі мы ставім яго на электрычную плітку? — пытае настаўніца ў вучня.

— Таму што малекулы вады злучаюцца з малекуламі пліткі,— адказвае вучань.



*— Якая ў цябе тэмпература?— спытаў у хворай дзяўчынкі ўрач.*

*— Сорак чатыры.*

*— Як — сорак чатыры?!*

*— Сорак чатыры. Мама сказала, што ў мяне трыццаць восем і шэсць.*



— У якім напрамку мы рухаемся? — пытае настаўніца.

— У паўднёвым,— адказвае хлопчык.

— Чаму ты так думаеш?

— Становіцца ўсё цяплей.

— Як ты думаеш, Аленка, чаму журавель стаіць на адной назе? — пытаецца ў Аленкі сяброўка.

— Калі б ён падняў другую, дык адразу ўпаў бы,— адказала Аленка.



*Бабуля купіла ўнучцы-першакласніцы партфель і кажа:*

*— Глядзі, Раечка, каб ты кожны дзень прыносіла поўны партфель пяцёрак.*

*— А куды ж я кнігі класці буду? — здзіўляецца ўнучка.*



На ўроку малявалі яблыкі. Толькі Валера сядзеў склаўшы рукі.

— Чаму ты не малюеш? — спытаў у яго настаўнік.

— А я з'еў свой яблык,— адказаў Валера.

— Які ты сёння бачыў сон?— пытае бабуля ў Сцёпы.

— Ніякі. Цёмна было, а я ў цемры не бачу сноў.

— Як ты думаеш, хто пабудаваў егіпецкія піраміды? — спытаў Цімка ў сястры.

— Яшчэ пытаеш! Вядома, археолагі,— адказала тая.

Прыйшла Ніна ў дзіцячы сад і кажа:

— Які сон я сёння бачыла!

— Раскажы!

— Няхай Тася раскажа. Яна была разам са мною.

— Табе дапамагаў тата вучыць урокі? — спыталі ў Жоры.

— А як жа! Я пісаў, а ён стаяў каля мяне з папружкаю.

*Літаратурна-мастацкае выданне*

# СМЯШЫНКІ

**Анекдоты**

***Укладальнік Алена Мімрык***

Загадчык рэдакцыі *А. І. Саламевіч*
Рэдактар *Т. С. Бялінская*
Афармленне *А. К. Шэвераў*
Мастацкі рэдактар *У. К. Фокін*
Тэхнічны рэдактар *С. И. Стараверава*
Карэктары *Л. А. Адамовіч, Л. К. Сямёнава*

Набор і вёрстка выкананы на камп'ютэрнай тэхніцы выдавецтва «Полымя». Падпісана да друку з арыгінал-макета 21.10.96. Фармат 70 × 100 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура «Тип Таймс». Ум. друк. арк. 4,51. Ум. фар. адб. 18,67. Ул.-выд. арк. 4,01. Тыраж 10 000 экз. Выд. № 9374. Зак.100

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 432. 220600, Мінск, пр. Машэрава, 11

Мінская фабрыка каляровага друку. 220024, Мінск, Каржанеўскага, 20

С 50 **Смяшынкі: Анекдоты:** Для малод. і сярэд. шк. узросту / Уклад. А. М. Мімрык.— Мн.: Полымя, 1996.—110 с.: іл.

**С $\frac{8820600000—027}{М306(03)—96}$ 00—97** **ББК 84 (4Беи)**

